№ 8(32)
Красавік 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"


"Чарнобыльскі шлях-99". Мінск, 26 красавіка...

# Шляхам смутку і жалобы

Напярэдадні 13-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы ў Мінску больш за пяць тысячаў чалавек прайшлі традыцыйным жалобным «Чарнобыльскім шляхам». Шэсьце пачалося з плошчы Якуба Коласа і прайшло да Палацу спорту.

Мінскія гарадзкія ўлады не дазволілі распачаць «шлях» ад Акадэміі навук, як гэта бывала ў мінулыя гады, у выніку чаго яшчэ за паўгадзіны да пачатку шэсьця адбыўся інцыдэнт з моладзьдзю. Некалькі маладых людзей усё ж прыйшлі на праспект Скарыны да Акадэміі навук, дзе і было арыштавана восем чалавек (сярод іх – двое непаўнагадовых і адна дзяўчына). Чатыры гадзіны іх пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку і пасьля сканчэньня «Чарнобыльскага шляху» адпусьцілі, ня склаўшы пратаколаў аб затрыманьні. З маладафронтаўца Сяргея Мацкойця міліцыянты зьнялі камуфляжную форму, якая і паслужыла фармальнай падставай для арышту і суправаджэньня моладзі ў пастарунак.

У пачатку калоны ўдзельнікі несьлі абраз Маці Божай Чарнобыльскай і звон, мерныя ўдары якога абуджалі ў прысутных памяць і жалобу. За імі над калонай уздымаліся транспаранты з назвамі беларускіх гарадоў і раёнаў, якія ў выніку аварыі на ЧАЭС найбольш пацярпелі.

Ушанаваць памяць ахвяраў мірнага атаму (і афіцыйнай савецкай хлусьні) палічылі сваім абавязкам Лявон Баршчэўскі, Станіслаў Багданкевіч, Сямён Шарэцкі, Юрый Захаранка, Павел Казлоўскі і шмат іншых дзеячоў, якія альбо заўсёды былі ў апазіцыі да Лукашэнкі, альбо апынуліся ў апазіцыі з-за нязгоды з ягонай вар'яцкай палітыкай.

На шляху да Палацу спорту трое невядомых мужчынаў накінуліся на маладафронтаўца Аляксея Чарняева і спрабавалі выцягнуць яго з калоны.

(Заканчэньне на стар. 2)

# Хроніка

*8, 9, 12 і 14 красавіка* ў Віцебску міліцыянтамі за адное і тое ж "парушэньне" затрымліваліся галоўны рэдактар незалежнай газеты "Выбар" Барыс Хамайда і старшыня Рады БНФ "Адраджэньне" ("Выбар") Уладзімір Плешчанка. Яны стаялі ў ажыўленым месцы ў цэнтры горада, прадавалі апазіцыйныя газеты, на грудзях у Б.Хамайды быў плакат з надпісам "Незалежная прэса". У адзьдзяленьні міліцыі кожны раз на іх складаліся пратаколы за ўдзел у несанкцыянаваным пікеце. У міліцыі іх трымалі ад адной да трох гадзінаў. Суд, які адбыўся пасьля першага затрыманьня (8-га красавіка), прызнаў іх невінаватымі.

*14 красавіка* ў Віцебску міліцыянты затрымалі грамадзяніна Беларусі, жыхара Віцебска Сьцяпана Серабро. У ягонай кішэні знайшлі даляр ЗША, на якім на месцы партрэта Прэзідэнта ЗША знаходзіўся здымак Сьцяпана Серабро, а таксама падобную да даляра жартаўлівую банкноту ў 500 тысяч рублёў, што па вартасьці адпавядае аднаму даляру. Супраць Сьцяпана Серабро ўзбудзілі крымінальную справу па арт. 84 Крымінальнага Кодэксу РБ (выраб і падробка грошай з мэтаю збыту і нажывы). Як заявіў адвакат — гэта грубае парушэньне закону і правоў чалавека, бо Серабро не спрабаваў збываць гэтыя "банкноты". Дарэчы, падобныя купюры прадаюцца ва ўсіх шапіках Беларусі. На допыце Сьцяпана зьбівалі і настойліва дапытваліся, ці не перадаў яму гэтыя "грошы" галоўны рэдактар газеты "Выбар" Барыс Хамайда.

(Працяг на стар. 6-7)

# Гвалт ёсьць гвалт...

*Старшыня Лігі сексуальных меншасьцяў Эдвард ТАРЛЕЦКІ зноў акцэнтуе ўвагу грамадзкасьці на праблемах дыскрымінацыі правоў чалавека ў Беларусі*

У адзін з нядаўніх выходных супрацоўнікі міліцыі зрабілі налёт на... лазьню, што месьціцца на вуліцы Хмяльніцкага ў Мінску. Як высьветлілася, мэтай рэйду было адшуканьне і затрыманьне грамадзянаў нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, якія, па пэўных зьвестках, абралі гэтую лазьню ў якасьці месца для знаёмстваў. У выніку ад дзеяньняў міліцыянтаў пацярпелі звычайныя людзі, якія прыйшлі ў той дзень у лазьню з банальным жаданьнем памыцца...

Пасьля гэтага выпадку старшыня Рады Лігі сексуальных меншасьцяў (ЛЯМБДА) Эдвард Тарлецкі склікаў прадстаўнікоў прэсы, каб паведаміць, што Ліга распачынае барацьбу супраць відавочнай дыскрымінацыі сексуальных меншасьцяў. Як вядома, Міністэрства юстыцыі замаруджвае рэгістрацыю Лігі, матывуючы гэта тым, што, згодна з апошнімі зьменамі ў Законе аб грамадзкіх аб'яднаньнях, кожная арганізацыя павінна прадставіць у якасьці заснавальнікаў ня менш за 50 чалавек. Вядома, такая колькасьць людзей у Лізе ёсьць, але спадар Тарлецкі лічыць, што прыняць гэтае патрабаваньне — значыць, падпарадкавацца прававаму бязьмежжу, якое творыцца дзяржавай у дачыненьні да грамадзянскіх свабодаў.

Абурыла кіраўніцтва Лігі і нядаўняя канферэнцыя, праведзеная па ініцыятыве Беларускага экзархату РПЦ на тэму «Згубныя наступствы міжнародных праектаў палавога выхаваньня». Апрача таго, што на гэтай канферэнцыі было вырашана супрацьстаяць распрацаваным ААН І ЮНЕСКА праграмам палавога выхаваньня моладзі, таксама гучалі заклікі да фізічнага зьнішчэньня праз сьмяротнае пакараньне геяў і лесьбіянак, а таксама дактароў, якія робяць аперацыі па штучным спыненьні цяжарнасьці. На думку Эдварда Тарлецкага, тое, што заклік да гвалту гучыць з вуснаў сьвятароў, зьяўляецца нонсэнсам.

Такая палітыка ўжо дала свае наступствы. Забаронена выступаць на Беларускім радыё супрацоўнікам Сексалагічнага цэнтру Дзьмітрыя Капусьціна; міністэрства адукацыі чацьвёрты год ня можа ўвесьці ў школах дысцыпліну па палавым выхаваньні, што супярэчыць прынятым ва ўсім сьвеце нормам.

Ліга зьбіраецца правесьці шэраг пікетаў з нагоды правакаваньня царквой гамафобіі ў грамадзтве і адмовы сексменшасьцям у рэгістрацыі арганізацыі. Таксама Ліга будзе дзейнічаць праз Міжнародную арганізацыю геяў і лесьбіянак, сябрам якой зьяўляецца Ліга, і якая ўдзельнічае ў працы ААН у якасьці кансультанта. «Відавочна, — кажа спадар Тарлецкі, — улады ігнаруюць той факт, што Ліга займаецца ня толькі псіхалагічнай рэабілітацыяй прадстаўнікоў сексменшасьцяў, але і дапамогай хворым на СНІД, абаронай людзей, якіх згвалтавалі ў турмах».

Таксама спадар Тарлецкі прывёў лічбу, атрыманую ім з канфідэнцыйных крыніцаў МУС: на працягу мінулага году 19 грамадзянаў былі забітыя за тое, што яны — геі. Міліцыя не хавае гэтага факту, але дэманструе нежаданьне надаваць яму значэньне. Гэта, як кажа спадар Эдвард, проста вымушае геяў пачаць бараніць сябе самім, тым больш, што апошнім часам рэгулярна здараюцца напады на іх неафашысцкіх груповак.

**Ц. П.**

# Напад на паэта

23 красавіка ў цэнтры Мінска быў зьбіты невядомымі паэт Славамір Адамовіч, які дзесяць месяцаў адсядзеў у турме КДБ за напісаньне антыпрэзідэнцкага верша. Інцыдэнт адбыўся ў пад'езьдзе дому па вул. Бабруйскай, дзе зараз месьціцца рэдакцыя газеты «Наша Ніва». Менавіта ў рэдакцыю і накіроўваўся Адамовіч, калі ў пад'езьдзе на яго напалі двое людзей (паводле назіраньняў Славаміра, яны нібыта некага чакалі). Трэці зламысьнік падчас зьбіцьця С.Адамовіча дзяжурыў каля пад'езду. Паэту былі нанесеныя лёгкія цялесныя пашкоджаньні.

Першапачаткова гэты напад многімі быў прыпісаны мінскай філіі прафашысцкай арганізацыі РНЕ, сябры якой некалькі разоў пагражалі некаторым супрацоўнікам «Нашай Нівы» пасьля публікацыі шэрагу матэрыялаў пра рускі фашызм. Каля месяца таму баркашоўцы нават нанесьлі візіт у рэдакцыю «НН» і заявілі аб захопе імі ў закладнікі аўтара аднаго з матэрыялаў. Хоць заява аказалася блефам, «закладнік», некалі лепшы сябра некаторых мінскіх баркашоўцаў, выглядае зараз даволі запалоханым, а рэдакцыя атрымлівала пагрозы па тэлефоне. Цалкам верагодна, што фашысты выбралі для ажыцьцяўленьня сваіх пагрозаў на практыцы Адамовіча.

Аднак сам пацярпелы ў гутарцы з карэспандэнтам «Права на волю» абверг версію аб дачыненьні да ягонага зьбіцьця РНЕ. На думку спадара Славаміра, прычынай сталася ягоная дзейнасьць як сакратара мінскай гарадской камісіі па выбарах прэзідэнта. Напад – чарговая акцыя рэжыму па запалохваньні актывістаў кампаніі. Невядомыя ў цывільным хутчэй за ўсё маюць простае дачыненьне да лукашэнкаўскіх спецслужбаў, лічыць С.Адамовіч.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Шляхам смутку і жалобы

*(Пачатак на стар. 1)*

Па словах сакратара Управы БНФ Алеся Чахольскага, разьлік правакатараў быў, відаць, на бойку з дружынай Фронту. Але дружына спраўна падтрымлівала парадак: свайго сябру адбіла, а правакатараў акуратна і настойліва адагнала далей ад месца падзеяў.

Мітынг сёлета быў як ніколі кароткім і нешматслоўным. Мінгарвыканкам зрабіў усё, каб арганізатары засталіся бяз гукаўзмацняльнай апаратуры. Удзельнікі мітынгу ўшанавалі хвілінай маўчаньня памяць Арнольда Пячэрскага – кіраўніка прафсаюза прадпрымальнікаў па Мінску і Мінскай вобласьці «Садружнасьць», які трагічна загінуў пры даволі цьмяных абставінах у аўтакатастрофе вечарам 24 красавіка. Каталіцкі і праваслаўны сьвятары, айцец Андрусь і айцец Ігар, памаліліся за долю Беларусі... Ужо другі мітынг запар беларуская апазіцыя трымае хвіліну маўчаньня (на Дзень Волі – па Вячаславу Чарнавілу, цяпер – па Арнольду Пячэрскаму), а ў перапынку паміж масавымі акцыямі мы страцілі яшчэ і Генадзя Карпенку...



Больш за ўсіх сарваны ўладамі мітынг засмуціў, як мне падалося, старшыню расійскага "Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяньня" Пятра Казначэева. Па-першае, масквічы да нашых рэаліяў нязвыклыя (пакуль нязвыклыя?), па-другое, Пётр прызнаўся, што гэтым разам зьбіраўся выступіць перад беларусамі на беларускай мове. Рыхтаваўся, рыхтаваўся, а рэжым слова сказаць ня даў! Нягледзячы на тое, што летась каля пятнаццаці расійскіх антыфашыстаў было арыштавана пасьля «Чарнобыльскага шляху», яны прыехалі да нас зноў, толькі іхнія плакаты супраць інтэграцыі з дыктатарам ужо ня ўтрымлівалі слова «ідыёт». Затое не прыехалі, як чакалася, некаторыя вядомыя палітыкі з Масквы, а таксама ніводнага госьця з Кіева. Калі я спаткала ў моры родных бел-чырвона-белых сьцягоў жоўта-блакітны, то высьветлілася, што яго нёс наш мінскі ўкраінец...

**Тацяна СЬНІТКО**

# ВЫКЛЮЧАНЫ ЗА ІНШАДУМСТВА

***Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе кожнаму права на адукацыю. Аднак яго зусім не гарантуе лукашэнкаўскі рэжым. Барацьба з іншадумствам у аўдыторыях навучальных установаў ідзе поўным ходам. Выключэньне з ВНУ маладых людзей, нязгодных з палітыкай Лукашэнкі, становіцца ўсё больш частай зьявай. Наш сёньняшні расповяд пра адзін з тыповых выпадкаў...***

У канцы лютага з факультэту кампутарных сістэмаў і сетак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту інфарматыкі і радыёэлектронікі быў адлічаны студэнт другога курса Герман Сушкевіч. Афіцыйная фармулёўка прычыны адлічэньня – «за акадэмічную непасьпяховасьць». Аднак пры бліжэйшым разглядзе справа выклікае пытаньні – хоць бы таму, што, па дзіўным супадзеньні, Герман зьяўляецца сябрам «Маладога Фронту». Сваіх поглядаў малады чалавек ніколі не хаваў і браў актыўны ўдзел у многіх акцыях: зьбіраў подпісы за вызваленьне палітычных вязьняў (у прыватнасьці, Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча), за адстаўку прэзідэнта Лукашэнкі, уступленьне ў грамадзянства БНР. Пасьля вулічных мітынгаў і шэсьцяў некалькі разоў трапляў у міліцэйскі пастарунак, але ня з-за сапраўдных парушэньняў парадку, а проста таму, што «хапун» у дні мірных выступаў апазіцыі — у Мінску зьява ўжо амаль будзённая. З дзесяткамі і сотнямі беларусаў за апошнія гады здаралася тое самае.

Спачатку Германа ратаваў ягоны ўзрост. Пакуль быў непаўнагадовым, з міліцыі пасьля затрыманьня хутка адпускалі і перадавалі пратаколы на разгляд раённай камісіі па справах непаўнагадовых. Кожны раз камісія патрабавала ад студэнта даць абяцаньне «больш гэтак не рабіць». Калі ж яму споўнілася васемнаццаць гадоў, адной з праяваў гэтай падзеі стала трое сутак за кратамі сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку. Так улады сёньня «адзначаюць» 18-годзьдзе самай сьвядомай часткі грамадзянаў. Арыштаваны Герман быў летась пасьля Дня Волі.

Нельга сказаць, што "адсідку" адразу заўважылі па месцы вучобы Германа. Ніякіх праблемаў пры здачы летняй сесіі ён ня меў. Можа, факультэцкае начальства давала студэнту шанц «выправіцца»? — падумае нехта і ня будзе мець рацыі. Бо начальства было на той час надта занятае іншай «вялікай» праблемай. Менавіта ўвесну 1998-га з таго ж факультэту і курсу выключылі трох студэнтаў – Алеся Мухіна, Андрэя Гілевіча і Паўла Мурашку. Усе яны патрапілі ў пастарунак за надпісы на сьцяне «Жыве Беларусь!» і «Жыве НРМ!» і намаляваны побач бел-чырвона-белы сьцяг. Гэтыя трое аднакурсьнікаў Германа былі ўмоўна асуджаныя.

А яшчэ праз паўгода адзін з выкладчыкаў факультэту, спадар Дземідовіч, наадрэз адмовіўся прымаць у самога Германа залік па праграмаваньню. На ранейшых сесіях па гэтым прадмеце Герман атрымліваў «выдатна», але з пачатку 1999 году выкладчык толькі і казаў, што залік ні ў якім разе не паставіць.

Дзень, калі трэба здаваць праграмаваньне, быў невядомы. Залік абвясьцілі раптоўна, літаральна за дзьве гадзіны да здачы. Дзеля гэтага, па словах Германа, ён не пасьпеў падрыхтавацца належным чынам. Студэнты прасілі перанесьці залік хоць бы на заўтра. Але сп. Дземідовіч, вядомы ва ўніверсітэце сваёй нязломнай упартасьцю ды прынцыповасьцю, запатрабаваў выканаць заданьні неадкладна.



Зразумеўшы сітуацыю, Герман убачыў, што сёньня атрымаць добрую адзнаку шанцаў мала. І, сапраўды, як і частка сакурсьнікаў, ён яе не атрымаў. У такіх выпадках нічога страшнага не здараецца: рыхтуешся і пераздаеш, але... Герман Сушкевіч ня мог тады ведаць, што такая сітуацыя была створаная наўмысна. Хутчэй за ўсё, яго проста «лавілі». Пасьля першай нязданы выкладчык Дземідовіч катэгарычна не жадаў з ім нават размаўляць пра залік, а калі дазволіў, нарэшце, пераздаць – пісьмовая работа «непажаданага» студэнта невядома куды зьнікла, і замест яе ў дэканаце захоўвалася тая самая, першая, з памылкамі, напісаная без падрыхтоўкі. Фармальна, такім чынам, залік здадзены так і ня быў.

Намесьнік дэкана факультэту не дапусьціў Германа да сесіі. Некалькі разоў другакурсьнік пісаў заявы ў дэканат з просьбай прызначыць яму іншага выкладчыка, стварыць камісію. Хоць у сваіх ведах больш не сумняваўся, даводзілася выпрошваць шанц здаць гэты злашчасны залік. Герман зьвяртаўся ў прафкам універсітэту, да загадчыка кафедры, прарэктара – усе нібыта спачувалі на словах і «нічым не маглі дапамагчы» на справе.

Урэшце «нячэснага» студэнта дапусьцілі да экзаменаў. За тры дні ён здаў тры іспыты. І захварэў. Пакуль папраўляўся, тэрмін здачы сесіі скончыўся. У дэканаце на даведку з паліклінікі сказалі: «Вашая даведка нас не цікавіць». Тым часам залік па праграмаваньні заставаўся «хвастом». Выкладчык Дземідовіч па-ранейшаму не хацеў упэўнівацца ў ведах студэнта Сушкевіча. Тэрміны сесіі няўмольна «гарэлі». Урэшце 24 лютага, зайшоўшы ў дэканат напісаць чарговую заяву аб зьмене выкладчыка, Герман сустрэў дэкана Барыса Віктаравіча Нікульчына. Той паведаміў пра загад рэктара аб выключэньні студэнта...

Пасьля таго, як перастаў быць студэнтам, Герман Сушкевіч яшчэ ў большай ступені сутыкнуўся з адкрыта непрыхільнымі, часам проста варожымі адносінамі некаторых супрацоўнікаў былой «альма матэр» да яго. На працягу амаль месяцу, матывуючы гэта рознымі прычынамі, яму не хацелі аддаваць загад аб адлічэньні ды іншыя дакументы. Аднойчы дэкан Нікульчын увогуле пагражаў «выкінуць з памяшканьня» Германа, бо ён «тут больш ніхто». Хоць нядаўні выхаванец сп. Нікульчына нічога кепскага рабіць ня думаў – ён папрасіў зрабіць для яго копію загаду аб адлічэньні, а калі ў гэтай просьбе адмовілі, сеў і перапісаў тэкст дакумента ад рукі. І зьвярнуўся да дэкана, каб той завэрыў копію сваім подпісам. Той у адказ учыніў скандал, аблаяў Германа. Аднавіць вучобу ва ўніверсітэце ў далейшым Герману было прапанавана выключна на платнай аснове. Але, па словах дэкана Б.Нікульчына, нават на гэткіх умовах Сушкевіча ён да сябе вучыцца ня возьме. Не патрэбны ён тут – і ўсё. Сказаў, як зьвязаў.

А сувязь паміж лёсам Германа Сушкевіча і біяграфіямі ягоных ганіцеляў на самай справе праглядаецца. Герман марыць жыць у вольнай, незалежнай, еўрапейскай Беларусі – спадар Дземідовіч, які «прынцыпова» выжыў яго з факультэту, ня раз прызнаваўся: «Такой краіны – Беларусь – для мяне не існуе». А ці існуе яна для спадара Нікульчына, які ў свой час прыехаў у Беларусь з Расіі і менавіта ў гады прэзідэнцтва Лукашэнкі зрабіў у сваёй кар'еры круты ўзьлёт? Таксама пытаньне... Фактычна пазбаўляць нацыянальна сьвядомых студэнтаў роўнага з іншымі права атрымліваць вышэйшую адукацыю – сумная тэдэнцыя нашых дзён. Але ў Мінскім універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі гэта, падобна, ужо становіцца традыцыяй. У адрозьненьні ад іншых навучальных установаў, тут моладзь, якая любіць Беларусь, нават не спрабуюць абараніць. Чыноўнікі ад адукацыі, кадры старой камуністычнай загартоўкі, у руках якіх сёньня многія лёсы, не задумваючыся гатовыя выконваць любыя загады «зьверху». Зараз Герман Сушкевіч працягвае працаваць, як ён рабіў гэта і ў час сваёй вучобы. Ягоная спецыяльнасьць – патрэба нашага кампутарнага часу. «Знайсьці працу – не праблема для мяне, — гаворыць Герман, — але я ха-цеў бы працягваць вучобу». Такім як ён, сёньня хочацца пажадаць толькі аднаго: стаць класнымі прафесіяналамі сваёй любімай справы насуперак чырвона-карычневаму рэжыму, які спрабуе пазбавіць іх будучыні. А разам з імі – усю Беларусь.

**Таццяна СЬНІТКО**

# Загінуў чалавек

## Але вінаватых у ягонай сьмерці... няма

### I.

Двое грамадзянаў пілі гарэлку і запівалі яе півам. Гэты прыемны занятак быў перапынены трэцім грамадзянінам, якому таксама хацелася піва, але грошай на гэта ў яго не было. Таму трэці нахабна-моўчкі "пазычыў" у тых дваіх куфаль піва. Натуральна, ім такая нявыхаванасьць не спадабалася, і яны гэтага грамадзяніна выкінулі з піўбару. Даволі груба выштурхнулі.

Тут ужо пакрыўдзіўся ён. Пабег дадому, узяў там кухонны нож і, вярнуўшыся, усадзіў яго аднаму з крыўдзіцеляў у сэрца. Дактары канстатавалі імгненную сьмерць...

Крымінальная справа паводле гэтага трагічнага выпадку разглядалася ў Мінгарсудзе некалькі гадоў таму, але актуальнасьці сваёй яна, на жаль, ня страціла. Забойцу, Эдуарду М., было на той час 18 гадоў, у забітага засталіся жонка-алкагалічка і двое дзяцей.

З пункту погляду крыміналістыкі злачынства было нескладаным. Сьледчаму трэба было фармальна правільна правесьці неабходныя дзеяньні і перадаць справу ў суд. Так і было зроблена.

Суд, аднак, вынес наступную пастанову: "Вызваліць Эдуарда М. ад крымінальнай адказнасьці за грамадзка-небясьпечнае дзеяньне..., якое ўчыненае ў стане страты памяці". Суд вырашыў прымяніць да забойцы прымусовае медыцынскае лячэньне. Той аказаўся, як груба, але дакладна гавораць у народзе, псіхам, ненармальным.

Кожны забойца праходзіць судовапсіхіятрычную экспертызу. Тым больш, пасьля размоваў з Эдзікам у сьледчага зьявіліся пэўныя сумненьні ў ягонай разумовай нармальнасьці. Заключэньне экспертаў гэтыя сумненьні пацьвердзіла: гарачлівы, падчас успышак злосьці сябе не кантралюе, ля роту зьяўляецца пена , вочы становяцца "шалёнымі", працягвае лічыць, што забіў правільна: было за што.

Эдуард М. прайшоў стацыянарную экспертызу ў Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы, у гэтакзваных "Навінках". Дыягназ: прыроджаная разумовая адсталасьць з псіхапатызацыяй асобы па эпілептоіднаму тыпу.

Уласна дэбільнасьць не зьяўляецца падставай, каб лічыць чалавека хворым. Але калі яна спалучаецца з псіхапатызацыяй асобы, тут пытаньняў няма. Псіхапаты дзеляцца ажно на 8 асноўных групаў. Эдзік аднесены да эпілептоідаў, прыкметы якіх: крайняя раздражняльнасьць, прыступы тугі, страху, гневу, нецярплівасьці, упартасьці і, адпаведна, крыўдлівасьць, жорсткасьць, схільнасьць да скандалаў...

Якім чынам грамадства атрымала такі небясьпечны "падарунак", своеасаблівую "бомбу", якая рана ці позна павінна была выбухнуць? Нарадзіўся Эдзік у сям'і з трыма дзецьмі. Бацькі пілі, маці пазбавілі бацькоўскіх правоў. Хадзіць пачаў у тры гады, тады ж – гаварыць. Выхоўваўся ў кругласутачным дзіцячым садку. У школе з вучобай былі вялікія цяжкасьці. Сем класаў скончыў у школе-інтэрнаце для разумоваадсталых дзяцей. Часта канфліктаваў з выхавацелямі і дзецьмі. Уцякаў са школы. Гарачлівы, вельмі скрытны – так характарызаваў свайго выхаванца дырэктар школы (пасьля забойства).

Толькі на падставе крымінальнай справы высьвятляецца: Эдуард М. і да злачынства быў душэўнахворым чалавекам. Падчас судовай экспертызы псіхіятры толькі канстатавалі наяўны факт. Які, дарэчы, імі да гэтага ня быў выяўлены! Што ўрэшце і прывяло да сьмерці ні ў чым не вінаватага чалавека.

### II.

Ужо крыху забылася, але раней, у савецкія часы, псіхіятрыі былі ўласьцівыя не зусім традыцыйныя функцыі. Напрыклад, пастаноўка чалавека на ўлік бяз згоды і нават бяз веданьня ім гэтага факту. Абсалютна здаровага чалавека, але — дысідэнта, г. зн. крытычна ацэньваючага савецкую рэчаіснасьць. Самы папулярны дыягназ быў "вялацякучая шызафрэнія". Псіхіятры ня любяць пра гэта гаварыць. Але гэта было. У мяне захоўваецца сьпіс незаконна рэпрэсаваных, які налічвае каля 150 чалавек. І гэта толькі тыя, у адносінах да якіх можна даказаць, што яны зусім ня хворыя. Іх "хвароба", а адпаведна і віна, заключалася ў пра-тэсце супраць існуючай сістэмы.

Сёньня былыя функцыі псіхіятрыі ў Беларусі "пасьпяхова" выконваюць іншыя карныя органы. Заканадаўства не дазваляе прымусова лячыць хворых бяз іх згоды ці згоды сваякоў. Такога чалавека да псіхіятра могуць прывесьці родныя ці міліцыя. У апошнім выпадку калі прыкметы вар'яцтва яўныя.

Пры гэтым трэба напісаць заяву на імя загадчыка гарадзкога псіхдыспансеру. Ён дае дазвол на першы агляд. Але прымусова адправіць на лячэньне ня мае права і ён. Гэта вырашае камісія. Напрыклад, шызафрэнікі, дэбілы, імбецылы і няўротыкі адпадаюць адразу. Лячэньне прызначаецца ў крайніх выпадках: забойства альбо замах на яго, спроба суіцыду. Характэрна, што кола дыягназаў, па якіх сёньня ставяць на ўлік, моцна звузілася.

"Кліенты" псіхдыспансера падзяляюцца на 4 групы ў залежнасьці ад цяжкасьці захворваньня. Хворых першай групы доктар павінен наведваць дома раз на два тыдні, другой – раз на месяц... Рэальна становішча выглядае, мякка кажучы, горш. Праблемы з транспартам і медыкаментамі ставяць пад сумненьне дадзеныя аб перыядычнасьці наведваньняў. Бываюць выпадкі, калі купіраваць абвастрэньне хваробы немагчыма з-за адсутнасьці транквілізатараў. Тады здараецца непапраўнае.

Самы вядомы выпадак апошніх гадоў – забойства хворым сваёй маці і раненьне сястры. Нібыта, відавочна: без памылкі альбо недагляду медыкаў тут не абышлося. Але да суда справа не дайшла – псіхіятрыя рэч тонкая. Напрыклад, лічыцца, што прадказаць абвастрэньне загадзя немагчыма.

З гэтым, аднак, цяжка пагадзіцца. Пры пастаянным і ўважлівым назіраньні доктар ня можа не заўважыць зьмяненьняў у стане хворага і прыняць адпаведныя меры. Фармальна доктара могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці па арт. 177, 178 КК РБ. Напрыклад, за няправільны дыягназ ці лячэньне. Але парадокс у тым, што даказаць гэта могуць толькі самі псіхіятры. Ці стануць яны "засуджваць" калегу, калі самі могуць апынуцца на ягоным месцы?..

Але ж чалавек загінуў... Тут узьнікае серыя новых пытаньняў. Якую меру адказнасьці нясуць за гэта бацькі забойцы? Ці медыкі, якія аглядалі Эдзіка ў дзяцінстве і нічога небясьпечнага для грамадства не знайшлі? А выхавацелі школы-інтэрнату, якія добра ведалі, што з сябе ўяўляе "скрытны" хлопчык?

Суд не абмяркоўваў ступень адказнасьці ўсіх гэтых асобаў і ўстанаваў. Юрыдычна вінаватых ён ня вызначыў. Фактычна ж яны ёсьць. Вінаватая сістэма псіхіятрычнай дапамогі, якая з савецкіх часоў мала ў чым зьмянілася. Хіба толькі па форме. Часьцей за ўсё псіхіятры займаюцца канстатацыяй фактаў. Сістэмы прафілактыкі практычна няма. Высновa: у поўнай меры ступень адказанасьці павінна несьці дзяржава, якая гэтую сістэму не стварыла.

### III.

Аднак, як кажуць, час зьбіраць камяні.

Эдзік трапіў на прымусовае лячэньне ў спецбальніцу, яго "крыўдзіцель" – на могілкі. З часам Эдзіка пераведуць на больш лёгкі рэжым у псіхіятрычны дыспансер. Урэшце камісія прызнае: наступіла ўстойлівая рэмісія, хворы можа быць выпісаны пад нагляд раённага псіхіятра, і Эдзік вернецца жыць сярод нас. Звычайна так і бывае. Асабіста мне невядомыя выпадкі, каб суд "капануў глыбей", паспрабаваў высьветліць ступень адказнасьці ўрача-псіхіятра.

Што ж рабіць у такім выпадку нам, простым грамадзянам, якія, нават ня ведаючы таго, штодзень рызыкуюць сваім жыцьцём дзеля неабароненасьці ад падобных "эдзікаў"? Рэкамендую зыходзіць з простай логікі. Псіхіятрыя фінансуецца з бюджэту. Адна з ягоных крыніцаў – нашыя падаткі. Іншымі словамі, мы плацім і за тое, каб дзяржава праз сістэму псіхіятрычнай дапамогі аберагала нас ад сустрэчы з нажом чарговага "эдзіка". Фактычна, у нас ёсьць права спытаць з дзяржавы за маральныя, фізічныя і матэрыяльныя страты. Калі суд ня можа ці ня хоча знайсьці канкрэтнага вінаватага (а суд – установа таксама дзяржаўная), то, значыць, мы можам зусім упэўнена пераадрасаваць свае прэтэнзіі дзяржаве. Паколькі дзяржава ў нас асацыіруецца сёньня з адным чалавекам, які ўзяў сабе ўсю уладу ( значыць, і ўсю адказнасьць), то судовыя зыскі можна і трэба выстаўляць прэзідэнту дзяржавы. Ва ўсялякім выпадку, забараніць гэта ці адмовіцца іх прыняць ня можа ніхто.

Мажліва, гэта ня выйсьце. Але ж трэба нешта рабіць. Бо гінуць ні ў чым не вінаватыя людзі. І на месцы пацярпелага ў любы момант можа аказацца кожны з нас.

**Андрэй СЯРЖАН**

***Аб раскулачваньні беларускага сялянства ў 30-ых гадах сказана і напісана шмат. Але памылкай будзе лічыць гэтую трагедыю фактам, які належыць мінуламу. Дагэтуль нашчадкі зьнішчаных бальшавіцкай уладай людзей прагнуць аднаўленьня справядлівасьці, патрабуючы хаця б матэрыяльнай кампенсацыі колішняга гвалту, якая для шмат каго з іх, у большасьці людзей ужо састарэлых і нямоглых, магла б стаць вельмі істотнай па сёньняшнім часе падтрымкай...***

# Гульня ў адпіскі

## Сорак гадоў сялянка Еўфрасіньня ГУКАВА змагаецца за свае правы

Амаль 40 гадоў вядзе змаганьне з уладамі сялянка Еўфрасіньня Гукава. Яна марна патрабуе справядлівасьці ад той улады, якая ў 1933 годзе разбурыла яе дом, зламаўшы лёс цэлай сям`і. Дагэтуль яна ня можа бяз сьлёз распавядаць пра калісьці перажытае...

Тады яе сям`я жыла ў вёсцы Жарцы, што на Полаччыне. "Раскулачваньне" прыйшло ў яе дом, калі Еўфрасіньні было шэсьць гадоў. Апрача яе ў доме было яшчэ 11 дзяцей. Мелася і добрая гаспадарка — бацька, "кулак" Амбросі, паважаны на вёсцы чалавек, меў каня, карову, сьвіньняў.

Калі з крыкам і лаянкай "камісары" усё гэта забіралі, жонка гаспадара ўпіхнула ў яміны з бульбай малых дзяцей — спадзявалася, хоць яны сыняць злачынцаў. Але "будаўнікі новага жыцьця" за валасы выцягвалі дзяцей з ямінаў, не жадаючы пакінуць сям`і нават рэшткаў харчоў. Еўфрасіньня Амбросаўна на ўсё жыцьцё запомніла, як хапала за боты тых, хто бурыў гаспадарку: "Дзядзечкі, пакіньце хоць што-небудзь, мы ж з голаду памрэм!" У адказ пачулася абыякавае: "Падыхайце!"



Дагэтуль жывыя сьведкі гвалту, які выцерпела ў той дзень сям`я Амбросія Зуева. Па агульных тагачасных мерках, ёй пашанцавала — у Сібір вывезьлі толькі бацьку, дзе ён і згінуў навек. Астатніх пакінулі жыць у разбураным доме — праўда, з забаронай прымаць жонку "кулака" на працу ў калгас.

Пяцёра малодшых дзяцей сям`і Зуевых памерлі з голаду. Старэйшы брат, 17-гадовы юнак, хутка пайшоў сьледам за бацькам — нехта з ягонае брыгады скраў у калгасе мяшок з зернем, а абвінавацілі яго. Астатніх дзяцей выхавалі сваякі. Што да самой Еўфрасіньні Зуевай (у замужжы Гукавай), наперадзе яе чакалі ня менш жудасныя выпрабаваньні. Падчас нямецкай акупацыі яна працавала на афіцэрскай кухні, дзе і сталааднойчы ахвярай каменданта, які ледзь не да сьмерці зацкаваў яе сабакамі. Выратаваў іншы немец — доктар, які адну за другой рабіў шматгадзінныя аперацыі...

У 1960 годзе Еўфрасіньня Амбросаўна атрымала з Віцебскага абласнога суда паперу, у якой значылася, што "пастанова Тройкі пры ПП АДПУ па БССР ад 26 сьнежня 1933 году спыненая за недаказанасьцю складу злачынства"... У краіне зьмяніўся афіцыйны погляд на масавыя "злачынствы" і "пакараньні". Нехта са сваякоў падказаў жанчыне, што яна можа запатрабаваць ад Савецкай улады матэрыяльную кампенсацыю нарабаванага ў яе сям`і ў 1933 годзе. Тады і пачалася гульня ў адпіскі, якая доўжыцца дагэтуль.

Перада мной стос папераў. Некаторыя з дакументаў зусім пажоўклыя, некаторыя — з чырвона-зялёнымі рэгаліямі адміністрацыі прэзідэнта РБ — зусім нядаўнія. Адрозьніваюцца на іх толькі выявы дзяржаўнага гербу.

На першы свой запыт пра вяртаньне маёмасьці Еўфрасіньня Гукава атрымала адказ з УКДБ пры Саўміне БССР па Віцебскай вобласьці: "Паведамляем, што... вашая заява разгледжаная і для канчатковага вырашэньня пытаньня накіраваная ў Віцебскі абласны фінансавы адьдзел, адкуль атрымаеце дадатковы адказ..."

"Дадатковы адказ" прыйшоў 23 лістапада 1960 году: "На вашую заяву паведамляем, што адносна канфіскаванай пры арышце вашага бацькі маёмасьці зьвярніцеся ў КДБ пры Саўміне БССР..."

І зноў тлумачэньні дае КДБ. 29 сьнежня 1960 году службовец па прозьвішчы Абнюх паведамляе Еўфрасіньні Гукавай: "Матэрыял намі правераны, і вашая заява 10 кастрычніка накіраваная ў фінадзьдзел Віцебскага аблвыканкаму для рашэньня пытаньня. Іншага рашэньня адносна вашае просьбы УКДБ прыняць ня мае магчымасьці..."

Але Еўфрасіньня Амбросаўна не здавалася. Пасьля шматлікіх запытаў яна атрымала, нарэшце, больш "канкрэтны" адказ. 6 лютага 1961 году фінадзьдзел Віцебскага аблвыканкаму паведаміў ёй: "...з наяўных матэрыялаў па справе грамадзяніна Зуева вынікае, што канфіскаваная ў яго падчас арышту і ніжэй вамі пералічаная маёмасьць перададзеная ў калгас вёскі Вялікія Жарцы. Згодна з законам, патрабаваньні безаплатна перададзенай маёмасьці выказваюцца да таго боку, які прыняў гэтую маёмасьць..."

Далей у "перапісцы" жанчыны з уладамі наступае перапынак. Хрушчоўская "адліга" скончылася. Ды нават і амаль непісьменнай жанчыне няцяжка было ўсьвядоміць, якімі могуць быць наступствы далейшага змаганьня. Аднавіла яна свае спробы толькі з надыходам іншай "адлігі" — гарбачоўскай.

"Камітэт пры Віцебскім Савеце народных дэпутатаў па дапамозе ў забесьпячэньні правоў ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 20-80 гадоў... просіць удакладніць, ці адбіралася ў яе сям`і маёмасьць, якая і куды яна патрапіла. Матэрыялы просім накіраваць для разгляду..." — такі запыт быў накіраваны да афіцыйных уладаў. Ішоў ужо 1997 год. У адказ УУС Віцебскага аблвыканкаму паведаміла, што матэрыялы для разгляду дасланыя ў адпаведную

*(Заканчэньне на стар. 7)*

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*14 красавіка* ў Віцебску ў 24 гадзіны на кватэры, дзе знаходзіўся брат Сьцяпана Серабро, актывіст БНФ "Адраджэньне", Сяргей, інспектар міліцыі (АБЭП) правёў вобыск. Былі канфіскаваныя кампутар, прынтэр, 50 кампутарных дыскет, нумары газеты "Выбар", ліст Хамайды да габрэяў сьвету ў падтрымку Ул. Плешчанкі, які 7 месяцаў беспадстаўна сядзеў у турме. Вобыск праводзіўся нібыта на падставе ўзбуджанай супраць Сьцяпана Серабро крымінальнай справы па арт. 84 КК РБ. Гэта было парушэньнем закону, бо вобыск у такіх абставінах мусіў праводзіць сьледчы, які вядзе гэтую справу.

*15 красавіка* на працы Сяргея Серабро міліцыянты канфіскавалі кампутар, на якім ён працаваў. 15 красавіка братоў Серабро Сьцяпана і Сяргея затрымалі на трое сутак (утрымлівалі ў сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку), абвінавачваньне ім прад'явілі праз 20 гадзінаў (па закону гэта павінна быць зроблена праз тры гадзіны). Сяргей абвясьціў галадоўку і трымаў яе трое сутак.

*17 красавіка* ў Гродне, падчас правядзеньня пікету ў абарону польскіх школаў, затрыманы старшыня саюзу палякаў Беларусі Тадэвуш Гавін. *21 красавіка* ў судзе Ленінскага раёну г.Гродна адбылося пасяджэньне па справе Тадэвуша Гавіна. У пастанове суда сказана: "Тадэвуш Гавін, як арганізатар пікету 12 сакавіка, дазволіў выкарыстаць плакат наступнага зьместу: "Віцэпрэм'ер Замяталін У., намстаршыні аблвыканкаму Бірукова М. і старшыня Наваградзкага райвыканкаму Ліс.А. душаць польскую мову". Суд палічыў, што тым самым Т.Гавін абразіў службовых асобаў. Т.Гавіну вынесенае адміністратыўнае пакараньне ў выглядзе штрафу — 115 млн. рублёў (прыкладна 300 даляраў ЗША).

*21 красавіка* ў Вярхоўным судзе пачаўся працэс па крымінальнай справе аб забойстве Яўгена Мікалуцкага, старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю па Магілёўскай вобласьці, дэпутата Нацыянальнага сходу і асабістага сябра прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі. Яўген Мікалуцкі загінуў восеньню 1997 г. у выніку выбуху радыёкіраванага выбуховага прыстасаваньня, усталяванага ў пад'езьдзе дому, дзе ён жыў. Судовы працэс па крымінальнай справе тычыцца трох жыхароў Магілёва — Гаўрылава, Радзікоўскага і Янчэўскага, якім інкрымінуюць зьдзяйсьненьне шэрагу злачынстваў. Аднаму з іх прад'яўленае абвінавачваньне ва ўчыненьні тэрарыстычнага акту супраць Я.Мікалуцкага. Два астатнія абвінавачаныя ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акту супраць прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі. Згодна з матэрыяламі сьледства, у падсудных канфіскаваная вялікая колькасьць зброі (аўтаматы, гранаты) і сродкі для назіраньня і падслухоўваньня. Судовы працэс закрыты, на яго не атрымалі доступу нават прадстаўнікі АБСЕ у Беларусі Крыстафер Паніко і Надзея Дударава. Падсуднаму Радзікоўскаму адмоўлена ў ягонай просьбе аб прадастаўленьні грамадзкага абаронцы з Беларускага Хельсінкскага Камітэту.



Пікет у Мінску 22 красавіка 1999-га году

*У красавіку* ўзбуджаная крымінальная справа па абвінавачваньні ў паклёпе ў дачыненьні да адваката Веры Страмкоўскай. Крымінальная справа ўзбуджаная па арт. 128 Крымінальнага Кодэксу РБ, які прадугледжвае адказнасьць да трох гадоў пазбаўленьня волі, двух гадоў папраўча-працоўных работ альбо штрафу. Па словах пракурора Кіраўскага раёну Магілёўскай вобласьці, крымінальная справа ўзбуджаная на падставе заявы Анатоля Смаленцава — кіраўніка сьледчай групы па справе былога старшыні аграрна-прамысловага аб'яднаньня "Расьсьвет" Васіля Старавойтава. А. Смаленцаў лічыць, што падчас судовага працэсу адвакат Страмкоўская дапусьціла заведама ілжывыя выказваньні, якія ганьбяць яго гонар і годнасьць. Сэнс справы ў тым, што В. Страмкоўская задала пытаньне аб захаваньні рэчавых доказаў, якія былі канфіскаваныя падчас вобыску ў В.Старавойтава, у прыватнасьці, сарака бутэлек каньяку "Белый аист". В.Страмкоўская сьцьвярджае, што пытаньне пра захаванасьць рэчавых доказаў было ўзьнятае ёй у межах дзеючага заканадаўства.

*21 красавіка* ў 21.15. у цэнтры Мінска на вул. Варвашэні каля заводу "Гарызонт" за расклейваньне ўлётак з запрашэньнем на традыцыйнае жалобнае шэсьце "Чарнобыльскі шлях-99", якое было дазволенае гарвыканкамам і запланаванае на 25 красавіка, былі затрыманыя сябры "Маладога Фронту": Амбразевіч Лявон (непаўнагадовы), Шарамет Міхаіл (непаўнагадовы), Кійко Натальля (паўнагадовая), Бяроза Юлія (паўнагадовая). Затрыманыя былі дастаўленыя ў РАУС Цэнтральнага раёну г.Мінска, дзе непаўнагадовых пратрымалі паўтары гадзіны і адпусьцілі, не паведаміўшы бацькам, а на Кійко Н. і Бярозу Ю. былі складзеныя пратаколы аб адміністратыўным правапарушэньні. У затрыманых міліцыянты канфіскавалі каля тысячы ўлётак-запрашэньняў.

*22 і 28 красавіка* ў Мінску адбыліся пікеты, арганізаваныя Праваабарончым Цэнтрам "Вясна-96". На пікетах былі выкарыстаныя інфармацыйныя стэнды, якія ўтрымлівалі матэрыялы, прысьвечаныя фактам парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

*25 красавіка* ў Гродна прыкладна ў 21.00. адбылося несанкцыянаванае шэсьце моладзі, прымеркаванае да 13-х угодкаў чарнобыльскай катастрофы. Шэсьце праходзіла пад нацыянальнымі сьцягамі. Не было ніякіх лозунгаў і выкрыкаў, удзельнікі шэсьця ў поўнай цішыні несьлі паходні — сімвал смутку па ахвярах Чарнобылю. У акцыі ўдзельнічала 38 чалавек. Да калоны пад'ехала машына, з якой выскачылі супрацоўнікі міліцыі і пачалі цягнуць у яе людзей. Праз пэўны час на дапамогу міліцыі пад'ехалі амапаўцы. Пры дапамозе дубінак і сьлезацечнага газу яны пачалі разганяць шэсьце. Некаторыя з супрацоўнікаў міліцыі былі ўзброеныя аўтаматамі. Пачалася бойка паміж дэманстрантамі і міліцыянтамі, прычым міліцыянты нападалі, а дэманстранты толькі абараняліся. У выніку 14 чалавек (з іх чацьвёра — непаўнагадовыя) былі затрыманыя і дастаўленыя ў мясцовы сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік. Сярод затрыманых быў і адзін выпадковы прахожы — жыхар г.Гродна І.Баранаў, які не прымаў удзелу ў шэсьці і бойцы. Супрацоўнікі міліцыі і АМАПу зьбівалі затрыманых у машынах па дарозе ў Ленінскі РАУС г. Гродна. Двум непаўнагадовым выстрыглі пасмы валасоў. Трох хлопцаў забрала з РАУСу "хуткая дапамога". Праз некаторы час двое з іх былі вернутыя ў міліцыю, а 19-цігадовы жыхар г.Мінску быў зьмешчаны ў адзьдзяленьні траўматалогіі шпіталю "хуткай дапамогі" — ударам боту адзін з міліцыянераў зламаў яму нос. Шмат хто з удзельнікаў акцыі быў вымушаны зьвярнуцца па медыцынскую дапамогу. Па словах сьведкаў, у адной дзяўчыны з Бабруйску — сатрасеньне мозгу. *26 красавіка* адбыліся

суды над затрыманымі. Судзьдзя Ленінскага раённага суда г. Гродна Яўген Казяк асудзіў чатырох чалавек да двух сутак адміністратыўнага арышту. Увогуле, большасьць затрыманых былі асуджаныя ад двух да чатырох сутак арышту. І.Баранаў быў аштрафаваны на адзін мільён рублёў. *27 красавіка* двое асуджаных, якія знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрыманьня пры Кастрычніцкім РАУСе, былі вызваленыя. *28 красавіка* былі вызваленыя асуджаныя да 3 сутак адміністратыўнага арышту.

*25 красавіка* ў Мінску адбылося традыцыйнае жалобнае шэсьце "Чарнобыльскі шлях", прысьвечанае 13-ым угодкам чарнобыльскай аварыі. 8 удзельнікаў акцыі былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёну. Калі быць дакладнымі, то яны нават не пасьпелі прыняць удзел у "Чарнобыльскім шляху". Затрыманыя зьвярнуліся ў ПЦ "Вясна-96". У заяве Аляксандра Унгура гаворыцца: "Я быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў 12 гадзінаў каля Акадэміі навук разам з В.Бруцкім, А.Сецькам, Ю.Меляшкевічам (непаўнагадовы), С.Мацкойцам, Л.Амбразевічам (непаўнагадовы), А.Лазарчык і М.Кунінай (непаўнагадовая). Сярод супрацоўнікаў міліцыі былі Якубовіч, Філіповіч і Цімохаў. Нас абвінавацілі ў "несанкцыянаваным зборы" і завезьлі ў Савецкі РАУС, дзе пратрымалі болей за тры гадзіны без складаньня пратаколаў (акрамя Мацкойца). Нас падвяргалі псіхалагічнаму ціску, зьдзекаваліся і прынізілі нашую чалавечую годнасьць". Адна з затрыманых, шаснаццацігадовая Марыя Куніна, засьведчыла наступнае: "Мы стаялі каля кінатэатру "Кастрычнік" з мэтай дачакацца людзей, якія маглі прыйсьці, прачытаўшы правакацыйныя ўлёткі з заклікам ісьці на "Чарнобыльскі шлях" ад Акадэміі навук. Мы хацелі арганізавана, без эксцэсаў і правакацый давесьці іх на дазволены Мінгарвыканкамам мітынг на плошчу Якуба Коласа". Пасьля заканчэньня акцыі затрыманыя былі вызваленыя.

*У ноч з 25 на 26 красавіка* невядомымі асобамі ў масках быў абрабаваны перадвыбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.

*26 красавіка* лідэр прафсаюзнага руху прадпрымальнікаў г.Гродна Валеры Леванеўскі быў асуджаны на 13 сутак адміністратыўнага арышту за тое, што некалькі прадпрымальнікаў, якім забаранілі правядзеньне сходу па пытаньнях сертыфікацыі ў закрытым памяшканьні, паспрабавалі ў прыёмны дзень трапіць да намесьніка старшыні гарвыканкаму спадарыні Лаўцель. Нічога палітычнага, па словах Леванеўскага, там не было: ні плакатаў, ні выступленьняў. Калі В.Леванеўскі пацікавіўся, чаму людзей не пускаюць у будынак гарвыканкаму, яго абвінавацілі ў арганізацыі мітынгу і склалі пратакол. В.Леванеўскі сьцьвярджае: "Рашэньне суда было вядомае да майго паходу ў выканкам. 13 сутак — гэта роўна столькі, колькі трэба, каб ізаляваць мяне на час магчымага прыезду прэзідэнта Лукашэнкі ў Гродна. Гэта чыстая правакацыя".

*У красавіку* намесьнікам пракурора г.Гомеля Валерыем Фурсам была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 188, ч. 2 КК РБ (узьдзеяньне на супрацоўніка міліцыі з мэтай перашкодзіць выкананьню ім службовых абавязкаў) у адносінах да былога міністра ўнутраных справаў Беларусі Юрыя Захаранкі, які зараз зьяўляецца каардынатарам па Гомельскай вобласьці ў штабе кандыдата ў прэзідэнты РБ М.Чыгіра. Крымінальны артыкул, па якім ўзбуджаная справа, прадугледжвае папраўчыя работы тэрмінам да аднаго года альбо штраф. Абвешчаны рэспубліканскі росшук Ю.Захаранкі. Сам Ю.Захаранка пра ўзбуджэньне крымінальнай справы ня ведаў і ў пракуратуру яго не выклікалі.

*У красавіку* на 10 мільёнаў беларускіх рублёў аштрафаваны кіраўнік Брэсцкай ініцыятыўнай групы па стварэньні філіі ПЦ "Вясна-96" Уладзімір Вялічкін. Яго асудзілі за правядзеньне несанкцыянаванага пікету. 21 лютага Вялічкін з плакатамі "Не — саюзу" і "16 траўня — выбары прэзідэнта" быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на брэсцкім рэчавым рынку. Супраць яго ўзбудзілі справу па арт. 167, ч.1 КаАП РБ. Рашэньне пра штраф у памеры 20 мінімальных заробкаў было вынесенае толькі пасьля чатырох судовых паседжаньняў.

*29 красавіка* суд Савецкага раёну г.Мінска вынес папярэджаньне Галіне Кунінай — удзельніцы антыядзернай акцыі 2 красавіка. У гэты дзень Г.Куніна была зьбітая невядомымі асобамі ў цывільным і 10 дзён правяла ў бальніцы.

# Гульня ў адпіскі

*(Пачатак на стар. 5)*
камісію пры абласным Савеце народных дэпутатаў, адкуль і трэба чакаць адказу. Ізноў атрымалася замкнёнае кола. Не, з камісіі, вядома, адказалі, нават даслалі ліст тагачаснаму старшыні Полацкага райвыканкаму Макаранку — у лісьце гэтым ад Еўфрасіньні Гукавай запатрабавалі даслаць які-небудзь дакумент, які б сьведчыў, што яна сапраўды зьяўляецца дачкой рэпрэсаванага Амбросія Зуева.

Адначасова камісія запатрабавала ад УУС Віцебскага гарвыканкаму дакументы, якія б пацьвердзілі, што маёмасьць у сям`і Зуевых на самой справе адбіралася. Як быццам Еўфрасіньня Гукава ня мела ўжо на руках вышэйназваны дакумент, дзе чорным па белым было напісана, што факт рабаваньня бальшавікамі маёмасьці меў месца, і трапіла потым гэтая маёмасьць у канкрэтны калгас (які сёньня, дарэчы, спыніў ужо сваё існаваньне)!

Нарэшце, летась камісія па справах ахвяраў рэпрэсіяў вырашыла паставіць у гэтай гісторыі кропку. Яна даслала Еўфрасіньні Гукавай ліст, у якім, прызнаючы (на падставе паказаньняў сьведкаў, а не дакументаў, якія ці то не захаваліся, ці то не шукаліся) факт бальшавіцкага рабаваньня, нагадвала, што, аказваецца, на самой справе грамадзянка Гукава ўсё сваё ўжо атрымала: 16 лютага 1995 году ў Полацкі райвыканкам была накіраваная пас танова аб выплаце ёй кампенсацыі за канфіскаваную маёмасьць у памеры... дзесяці мінімальных заробкаў.

І яшчэ адзін цікавы момант: неяк, прыйшоўшы са сваёй бядой у райвыканкам, Еўфрасіньня Амбросаўна выпадкова даведалася, што яна, як ахвяра, аказваецца, яшчэ і атрымала нейкую дапамогу ў 120 тысяч рублёў, за што маецца яе "уласны" подпіс у журнале. Вядома, подпіс свой кабета не пазнала і пазнаць не магла... Гэта яе моцна ўразіла — грошы, вядома, невялікія, але ж не ў грашах справа.

Як за апошнюю надзею ухапілася старая за магчымасьць даслаць ліст у адміністрацыю прэзідэнта. Адказ прыйшоў хутка і на куды лепшай паперы, чым усе папярэднія. У ім гаварылася, што яе скарга накіраваная... вядома ж, у Віцебскі аблвыканкам.

Нядаўна адтуль па тэлефоне Еўфрасіньні Гукавай паведамілі, што яе справу перагледзелі і падстаў для зьменаў рашэньня аб кампенсацыі не знайшлі. Тым самым далі канчаткова зразумець, што спадзявацца ёй няма на што.

...Маленькая хатка Еўфрасіньні Амбросаўны, што прытулілася на ўскрайку вёскі Зялёнка, у некалькіх кіламетрах ад родных Жарцаў, пакідае ня надта аптымістычнае ўражаньне. Неяк адразу адчуваецца, што пра дабрабыт тут казаць не даводзіцца.

Дзеці Еўфрасіньні Гукавай, што завіталі да яе на сьвята (было як раз 8 сакавіка), таксама не хавалі таго, што жывецца ім матэрыяльна цяжка. Усё гэта міжволі зьняло пытаньне — навошта так упарта Еўфрасіньня Амбросаўна дамагаецца вяртаньня таго, што дзяржава некалі адабрала ў яе сям'і. Але ніхто ўжо ў аднаўленьне справядлівасьці ня верыць. Як сумна пажартавала яе дачка, нават ад нямецкага боку лягчэй атрымаць кампенсацыю за колішнія ваенныя пакуты, чым дачакацца, пакуль улады ўласнай краіны паспрабуюць адказаць за некалі зьдзейсьненае злачынства.

**Ціна ПАЛЫНСКАЯ**

**Ад рэдакцыі:**
**Дасьледчык Уладзімір Адамушка ў кнізе"Палітычныя рэпрэсіі 20-50-ых гадоў на Беларусі" сьцьвярджае, што толькі з 1931-га па 1934 год у Беларусі былі раскулачаныя і вывезеныя за межы рэспублікі больш за 260 тысячаў чалавек. Усяго ж за 20-50-я гады колькасьць рэпрэсаваных складае звыш 600 тысячаў чалавек...**

## Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

Наступныя сем сутак прайшлі амаль бяз допытаў: увесь гэты час дапытвалі Вадзіма Лабковіча. Затое ў маю камеру падсадзілі "падстаўнога", які безпасьпяхова спрабаваў мяне " раскруціць".

На дзесятыя суткі ў прысутнасьці майго першага абаронцы Арсенія Скаруліса мне прад'явілі афіцыйнае абвінавачаньне . Яно ўтрымлівала тую ж інфармацыю, што і раней, але словы пра гонар і годнасьць прэзідэнта – зьніклі. Паводле закону, цяпер я павінен быў быць адпраўлены ў сьледчы ізалятар гораду Жодзіна, але міліцыянты вырашылі павыпрабоўваць мае нервы яшчэ і не замаўлялі на мяне "этап". У рэшце рэшт мае нервы здалі, і на 12-я суткі адсідкі, 6 верасьня, я абвясьціў сухую галадоўку. Праз гадзіну да мяне далучыўся Вадзім Лабковіч. Мы патрабавалі неадкладнага вызваленьня і спыненьня крымінальнай справы. Міліцыянты ж не знайшлі нічога лепшага, як падсадзіць у камеру правакатара, які ўвесь час атрымліваў перадачы і ўпарта прапаноўваў пачаставацца чымнебудзь. Вялікіх намаганьняў каштавала адмовіцца ад спакусы.

10 верасьня на 16 дзень адсідкі і чацьвёрты дзень галадоўкі, мы з Вадзімам даведаліся, што заўтра нас адпраўляюць этапам у сьледчы ізалятар у Жодзіна, афіцыйная назва якога – УЖ 15/ І38. Тады Вадзім спыніў галадоўку, я ж вырашыў працягваць яе да пераможнага канца.

Стаўбцоўскі ізалятар часовага ўтрыманьня мы пакінулі 11 верасьня.

### *III. У кіпцюрах "Чорнага Бусла".*

У другой палове нас з Лабковічам пасадзілі ў "аўтазэк" – браніраваны аўтамабіль для перавозкі вязьняў з гораду ў горад. Зьнешне нагадвае ён аўтамабіль, у якім звычайна возяць хлеб. Унутры падзелены на адзьдзелы, у найбольшым з якіх сядзяць двое ўзброеных міліцыянтаў, астатнія адзьдзелы называюцца: "лодка" (разьлічаны на дваіх), "стакан" (іх два, разьлічаныя на аднаго вязьня кожны), "агульны" (разьлічаны на 8 чалавек). Такім чынам, максімальная колькасьць перавозімых зэкаў павінна складаць ня болей за 12 чалавек. Калі ж мы з Лабковічам зайшлі ў гэтую "таксоўку", там ужо знаходзілася больш за два дзесяткі вязьняў. Духата, смурод, цесната і качка, ад якой увесь час б'ешся галавою аб жалезную столь. Недзе на сярэдзіне шляху Вадзіма, які знаходзіўся ў "агульным" адсеку, пачало ванітаваць. Я ж па-ранейшаму знаходзіўся на галадоўцы, і таму ванітаваць мне проста не было чым акрамя страўнікавага соку. Ехалі ня менш за 4 гадзіны і калі праехалі турэмную браму, здавалася самае цяжкае засталося ззаду, але найбольшыя жахі чакалі нас наперадзе.

Ахоўнікі Жодзінскага ізалятару, высадзіўшы з "аўтазэку", прымусілі ўсіх нас бегчы па калідоры да "прыёмнага пакою", што зрабіць пасьля такой паездкі было няпроста. Многія падалі і адразу ж атрымлівалі ўдары нагою ў жывот.



Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Ужо ў пакоі, які ўвесь быў абкладзены кафельнаю пліткаю (пасьля я зразумеў, што гэта для таго, каб лягчэй змывалася кроў), нас выстраілі ўздоўж сьцяны і загадалі не паварочвацца. Цікаўнасьць перамагла, і я азірнуўся, каб убачыць, што робіцца вакол. Праз імгненьне два цяжкія ўдары па сьпіне і нагах кінулі мяне на падлогу, і пачуўся амаль што рык:"Я ж табе загадаў не паварочвацца!" Давялося падняцца, і хістаючыся ад зьнясіленьня (усё ж пятыя суткі галадоўкі), уткнуцца ілбом у сьцяну. А за сьпінаю, відаць, зьявіўся начальнік зьмены, бо ўся ахова перайшла з "ты" на "вы". Тым жа рыкам было зробленае афіцыйнае паведамленьне (цытую): "Вы прыбылі ў Жодзінскі цэнтрал "Чорны Бусел". Тут вы – ня людзі, і мы зробім усё, каб вы адчулі гэта. Без каманды – не паварочваць нават галавы, рухацца толькі бягом з закладзенымі за сьпіну рукамі, трымаць адлегласьць два метры адзін ад аднаго. Калі да вас зьвяртаюцца – адказваць цалкам ФІО (прозьвішча, імя па бацьку), дату нараджэньня, бацькоў, жонак, артыкулы, па якіх утрымліваецеся пад вартай. Папярэджваю – за запінку будзем біць, за размовы паміж сабой – будзем біць. Калі хто надумае спрачацца, жывым да камеры ня дойдзе! Пачалі!.."

І тут пачаўся прыём. Начальнік зьмены называў прозьвішча, а вязень, якога выклікалі – выходзіў і казаў свае дадзеныя. Ад хваляваньня амаль усе зьбіваліся, і іх жорстка білі. Калі дайшла чарга да Вадзіма Лабковіча, начальнік зьмены зрабіў паведамленьне:

— Увага! Сёньня на этапе – бэнэфаўцы, аматары ірваць сьцягі. Пастаўцеся да іх з усёй увагай, калі ласка!

Далей я пачуў, як Вадзіма некалькі разоў ударылі (было чутна, як ён упаў), за што яго адразу ж "перацягнулі" яшчэ колькі разоў гумавай дубінкай. Пасьля гэтага яго павялі.

Мяне выклікалі сярод апошніх. Перш чым назваць свае дадзеныя, я палічыў патрэбным паведаміць, што я на галадоўцы. Твар міліцыянта пачырванеў, і ён нанёс мне два ўдары ў грудзі. Я ўтрымаўся на нагах і паспрабаваў без запінкі назваць свае дадзеныя. На артыкулах крымінальнага кодэксу мяне замкнула, і з усіх бакоў пасыпаліся ўдары кулакамі, так што я ўпаў і стукнуўся ілбом аб падлогу. Сьпярша прачнулася незразумелая злосьць, хацелася проста кінуцца на ахоўнікаў, але яны, відаць адчуўшы гэтае жаданьне, адыйшлі на пару метраў, даўшы мне магчымасьць падняцца.

— Дык што, сьцягі любіш? Ану, хлопцы, намалюйце яму на сьпіне сьцяг!

Міліцыянты выстраіліся ланцугом па абодва бакі калідору, па якім мне трэба было прабегчы, і дасталі дубінкі. Набраўшы моцы і дзякуючы заняткам спортам, я ірвануўся і прабег так, што ніводная з гумавых палак не зачапіла мяне. Але радавацца было рана: мне загадалі вярнуцца і зноў прайсьці па тым жа маршруце – цяпер павольна, крокам. Пасьля гэтай "вандроўкі" на сьпіне сапраўды ўтварыўся бел-чырвона-белы сьцяг, які назаўтра зьмяніў чырвоную паласу на скуры на сіня-чорную. Ледзь "даклыпаўшы" да "адстойніка" (камера, дзе вязьняў утрымліваюць да рассарціроўкі па іншых камерах), я ў зьнясіленьні зваліўся на рукі зэкаў, якія дапамаглі мне ня страціць прытомнасьць. Уваччу было чорна, і калі праз пяць хвілінаў мяне выклікалі на аналіз крыві, я ішоў, ня бачачы нічога перад сабою. Каля медкабінета я абапёрся рукамі аб сьцяну, за што тут жа атрымаў некалькі ўдараў па нырках, і гэта было апошняе, што я памятаю. Далей, па расповядах будучых сукамернікаў, я мехам зваліўся на падлогу, і, нягледзячы на ўдары ботамі, ужо не падымаўся. Выбеглі дактары і пад рукі зацягнулі мяне ў кабінет, паклалі на ложак. Раз-пораз з кабінету былі чутныя крыкі:"Пульс не прамацваецца! Ціск падае! Каліце хутчэй!"

Як я даведаўся пасьля ад доктара, у мяне проста спынілася сэрца. Недзе праз гадзіну я прыйшоў у прытомнасьць і ўбачыў перад сабою чалавека ў белым халаце, які сказаў мне: "Шыдлоўскі, я пра вас чытаў, выходзьце неадкладна з галадоўкі, інакш праз тыдзень вас тут пахаваюць", — адвярнуўся і пайшоў, але, убачыўшы, што побач нікога няма дадаў, — "Шостага верасьня быў з'езд Маладога Фронту! Пра вас памятаюць! Трымайцеся"!

Больш я гэтага доктара ня бачыў, але дагэтуль удзячны яму за тыя некалькі словаў падтрымкі, якія ўпершыню пачуў ад пачатку тэрміну.

Пасьля, да 4-х гадзінаў раніцы мне калолі нешта ў вену, давалі нюхаць нашатыр і білі па шчоках. Затым прыйшоў начальнік медчасткі і спытаў, ці буду я працягваць галадоўку. Пачуўшы: "Не", загадаў: "Усё, у бальніцу яго".

Мяне яшчэ звадзілі, каб зьняць адбіткі пальцаў, сфатаграфаваць,а затым пад рукі павялі ў камеру шпіталю.

*(Працяг будзе)*

*Працяг.*
*Пачатак у №31.*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*